


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 8 (144), ЧЭРВЕНЬ 2012 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Што людзі звыкла называюць лёсам, з'яўляецца па сутнасці, сукупнасцю зробленых імі глупстваў.**

**Артур Шапенгаўр.**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# АДКРЫТАСЦЬ ДЗЕЛЯ ДАБРАБЫТУ

**Напрыканцы траўня па запрашэнню Інстытута развіцця і навучання "EDUCATIO" (Літва) давялося прыняць удзел у семінары "Мясцовая палітыка ў Еўразвязе і Беларусі" і азнакамленчай паездцы ў Вільню, Коўна і Анікшчай. Паездка дазволіла пабачыць Літву пасля 20 гадоў незалежнага існавання і пераканацца ў перавагах дэмакратычнага ладу жыцця. Розніца паміж нашымі краінамі асабліва адчувалася на прыкладзе правінцыйнага гарадка Анікшчай, што на ўсходзе краіны.**

Гэта розніца пачынаецца з прынцыпаў фармавання ўлады і іх падзелу і незалежнасці. У нас усе галіны растуць з аднаго выканаўчага ствала, які заціскае ўселякія несанкцыянаваныя ініцыятывы, диктуе паводзіны заканадаўчай, судовай уладаў, а таксама манапалізуе СМІ. У Літве, і ў Анікшчаі голас выбаршчыка, а не вертыкалі вырашае вынікі выбараў. Пры гэтым у Анікшчаі першым у краіне сфармаваўся кіруючы блок кансерватараў і сацыял-дэмакратаў. Мэрам Анікшчайя з 2007 года з'яўляецца Сігуціс Абелявічус, старшыня мясцовага аддзялення кансерватыўнай партыі "Тэвінас саюнга". Да абрання на пасаду мэра спадар Абелявічус, кіраваў пятнаццаць гадоў асноўнай школай у мястэчку Траупіс, дзе стварыў адзіны ў Літве школьны батанічны сад з пяці тысяч розных гатункаў і відаў раслін. На пасадзе мэра Сігуціс працягвае займацца батанічнымі дааследаваннямі і ўдзельнічае ў шматлікіх навуковых канферэнцыях, мае больш 300 артыкулаў аб рэдкіх раслінах Літвы.

Стыль працы як мясцовай Рады Анікшчайя, так і ўсіх Рад літоўскіх мястэчкаў – адкрытасць. На паседжаннях Рады і ў яе камітэтах можа прысутнічаць любы грамадзянін Літвы, а самі паседжанні мясцовай Рады транслююцца ў прамым эфіры мясцовым тэлебачаннем. Грамадзяне маюць доступ да ўсіх прынятых рашэнняў, як Рады, так і выканкама.

Менавіта пры Абелявічусе Анікшчай пачаў актыўнее пазіцыянаваць сябе як курортная тэрыторыя, прыцягваючы для мясцовага развіцця значныя еўрапейскія гранты і крэдыты. Апошнія гады ў раёне асвойваецца да 20-25 млн. эўра ў год. Наогул, развіццё турызма прыярытэт мясцовай палітыкі. Для актыўнага турызма ў раёне маецца да 250 культурніцкіх аб'ектаў. У гэтым ліку першы ў свеце Музей Каня, які ўзнік у былым калгасе і ператварыўся ў нацыянальны цэнтр вывучэння каняводства з сучаснай інфраструктурай. На турызм працуюць і літаратурныя музеі знакамітых літоўскіх пісьменнікаў: Антанаса Баранаўскаса, які напісаў гімн літоўскай прыродзе – паэму "Анікшчайскі лес", Антанаса Вёніоліса, Йёнаса Білюнаса, Йёзуса Тумаса і іншых. Акрамя літаратурных музеяў і пакояў край вабіць унікальнай прыродай: як далінамі ракі Швянтоіі (Нёмана), так і вялікім возерам Рубікю з 16 выспамі, дзе адбываецца штогадовая парусная рэгата. Прыцягвае турыстаў і самы вялікі камень Літвы – Пунтукас, а таксама брат Пунтукаса, дрыгва Каралева, курганы і іншыя прыродныя прыгажосці, дзе маюцца дабраўпарадкаваныя месцы для адпачынку. Праз раён праходзяць тры нацыянальныя трасы турызму – водная, аўтатурызму, веласіпедная. Цікавы для турыстаў музеі вузкакалейкі, кулінарыі, анёлаў і г.д.

Ва ўмовах адкрытасці мясцовай улады з году ў год расце колькасць турыстаў, якія наведваюць Анікшчайскі край. У мінулым годзе край наведала чвэрць мільёна турыстаў, што з'яўляецца адным з лепшых паказчыкаў у Літве. Адпаведна турысты пакінулі значныя сумы у крамах, музеях, сядзібах раёна, бо ў горадзе маецца два гатэля, 15 пунктаў харчавання, а таксама ў раёне 35 аграсядзіб сучаснага ўзроўня. Мясцовыя ўлады лічаць гэту колькасць аб'ектаў турыстычнага, як бы сказалі ў нас – прыдарожнага, сэрвісу недастатковай і маюць амбіцыйныя планы па яго развіццю. Без дыктата вышэйшага кіраўніцтва, але для дабрабыта сваіх землякоў. Бо менавіта выбаршчыкі Анікшчайскага краю самі для сябе выбіраюць уладу на свабодных, адкрытых дэмакратычных выбарах. Выбарах, якія рэальна адлюстроўваюць прыхільнасці жыхароў краю, а не з'яўляюцца імітацыяй ці паказушным "святам".

**Леанід Гаравы.**

СЯРЭДНІЯ ЗАРОБКІ

# ПРАГНОЗЫ-АБЯЦАНКІ СТАРШЫНІ НЕ СПРАЎДЗЯЦЦА

**Афіцыйныя дадзеныя аб заробках па Віцебскай вобласці за чатыры месяцы сведчаць, што не ў адным з сельскіх раёнаў вобласці сярэднія заробкі за чэрвень ніякім чынам не могуць дасягнуць прагназуемай старшынёй аблвыканкама А. Косінцам лічбы ў 400 даляраў. Гэта датычыцца і жыхароў Гарадоцкага раёна.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў дадзеныя аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў краіны за пяць месяцаў гэтага году. Сухія лічбы статыстыкі сведчаць, што рэжым перш за ўсё імкнецца падняць узровень жыцця ў буйных гарадах, дзе сярэднія заробкі падымаюцца хутчэй, чым у райцэнтрах і зараз значна вышэй у абсалютных лічбах. Гэта звычайная практыка аўтарытарных рэжымаў – залагоджваць жыхароў буйных гарадоў, пакідаючы правінцыю ў галечы.

Сярэднемесячны заробак па краіне са студзеня месяца вырас з 2880 тыс. руб. на 187 тысяч руб. і дасягнуў 2933 тыс. руб.. Але значна больш хуткімі тэмпамі рос сярэднемесячны заробак у сталіцы, дзе ў студзені быў 3654 тыс. руб., а за чатыры месяцы дасгнуў ужо 3944 тыс.руб. – павысіўся на 290 тыс. руб. Вышэй нацыянальнага ўзроўня раслі сярэднемесячныя заробкі і ў Віцебску: з 2707 тыс. рубл. у студзені да 2933 тыс. руб. за чатыры месяцы гэтага года – на 226 тыс. рублёў.

А вось у Гарадоцкім раёне пра такія тэмпы росту могуць толькі марыць. У нас сярэдні заробак за студзень склаў 2151 тыс. руб, а за чатыры месяцы дасягнуў толькі 2251 тыс. рубл. – рост на дакладныя сто тысяч рублёў. Але ў доларавым эквіваленце па набыццю даляраў у "Беларусбанку" на канец месяца гэтыя заробкі на Гарадоччыне склалі адпаведна толькі 256 дал. у студзені і 271 даляр на канец траўня. Відавочна і недасведчанаму чалавеку, што калі за чатыры месяцы рэальны рост заробкаў склаў толькі пятнаццаць даляраў, то за адзін месяц ён ніякім чынам не вырасце на 129 даляраў. Не вырасце, калі не намаляваць чарговую партыю інфляцыйных "зайчыкаў", як зрабілі улады ў перыяд прэзідэнскай кампаніі ў 2010 годзе.

Для зацікаўленых грамадзян адзначу, што на Віцебшчыне ёсць рэгіён, дзе гэтыя заробкі могуць дасягнуць і 500 даляраў. Гэта ў беларускім нафтаградзе -- Наваполацку, дзе за чатыры месяцы сярэднія заробкі былі вышэй чым у сталіцы, дасягнуўшы аж 4021 тыс. руб.. У краіне вышэйшыя заробкі, толькі ў калійным цэнтры – Салігорскім раёне – 5389 тыс. руб.

Пра такія лічбы могуць толькі марыць жыхары Шаркаўшчынскага і Шумілінскага раёнаў, дзе самыя малыя сярэднія заробкі на Віцебшчыне – адпаведна па 2057 і 2121 тыс. рубл.. Марыць, як і астатнія жыхары віцебскай правінцыі, пра сярэднія заробкі ў 400 даляраў у чэрвені гэтага году.

Але тут абвясцілі аб пачатку палатачнай кампаніі – і зноў з'явілася вялікая спакуса выканаць абяцанкі за кошт друкарскага станка.

**Л. Антонаў.**

ДАРОЖНАЯ БЯСПЕКА

# ГАРАДОЦКАЕ БЕЗДАРОЖЖА

*Гарадоцкая ўлада "вылізвае" цэнтр, а зусім недалёка ад яго месцамі пануе аварыйнае бездарожжа. Пра гэта добра ведаюць жыхары мікраараёна, які пачынаецца з вуліцы Талкачова, дзе месцяцца райвыканкамат і праўленне ААТ "Гарадоцкі РАПЗ".*

Гэтае бездарожжа пачынаецца ад Гарадоцкага райваенкамата і цягнецца праз вуліцу Талкачова на Завадскую, Палявую, Юбілейную. Да канторы ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" вядзе дарога, дзе ўшчэнт разбіты асфальт. І аўтааматары-навічкі, якія ўпершыню з'едуць на гэту "дарогу" на хуткасці 50 км/г маюць усе шанцы пашкодзіць аўтамабіль. Правілы дарожнай бяспекі абавязваюць адказныя службы апавяшчаць кіроўцаў аб небяспечным стане дарогі, але на гэтым участку ніякіх папярэджваючых знакаў няма. Толькі за гэта ДАІ або пракуратура мае поўнае права прыцягнуць да адміністратыўнай адказнасці службоўцаў, якія адказваюць за дадзены ўчастак дарогі у Гарадку.

Але разбіты участак асфальта ў дадзеным мікраараёне працягваецца гравійным пакрыццём ў стылі пральнай дошкі – "дыр-дыр-дыр". І дзесяткі аўтааматараў выпрабоўваюць свае машыны ва ўмовах а-ля ралі. Бо ніякага кантролю за якасцю грэйдзіравання ў мікраараёне вуліц Талкачова--Палявой не вядзецца. Адпачываюць тут і мясцовыя ўлады, якія далі дабро на асфальтаванне дарогі да новага дома старшыні Гарадоцкага райвыканкама В. Мураньова, а пра дарогі мікраараёнаў Гарадка забыліся.

Не клапоцціца гэтымі дарогамі і "Гарадоцкі РАПЗ". Ды і калі яму клапаціцца дарогамі? Пару гадоў назад знішчылі бярозы і ялінкі каля канторы, а дабраўпарадкаванне абмежавалі прымітыўнымі буграмі ў стылі "альпійскія горкі". Ды яшчэ прырода пакарала нядбайным гаспадароў, калі моцны вецер тыдзень таму сарваў амаль палову даху з канторы.

Адрамантаваць жа дарогі і правесці добраўпарадкаванне мясцовых гаспадарнікаў, напэўна, абавяжуць толькі да канца палатачнай кампаніі.

**Л. Антонаў.**

# АБ'ЯВА

***Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info***

***Стваральнікі інфармацыйнага партала запрашаюць неабыякавых грамадзян да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. У рэдакцыі магчыма бясплатна атрымаць календарыкі на 2012 год, год Дракона.***

***Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.***

ПРЫРОДНАЯ СТЫХІЯ

# З ВАЕНКАМАТА ЗНЕСЛА ЧАСТКУ ДАХУ

**У панядзелак 11 чэрвеня ў Віцебскай вобласці назіралася навальніца з моцнымі парывамі ветру. Зіхацелі маланкі, ліў дождж, а парывы ветру да 14 метраў у секунду змяталі ўсё на сваім шляху. У Гарадку пацярпелі будынкі на вул. Талкачова.**

Паводле інфармацыі Віцебскага абласнога УМНЗ на пульт Гарадоцкага упраўлення МНЗ у 18 гадзін 11 чэрвеня паступіла інфармацыя аб тым, што парывы ветру каля 16.30 пашкодзілі будынкі ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" і ваенкамата. На адміністрацыйным будынку дах пашкоджаны на плошчы каля 70 кв. м. ў выніку аслаблена мацавання лістоў шыферу на даху, а з даху ваенкамата сарвала лісты шыфера на плошчы 10 кв. м.. Шкода нанесеная прыроднай стыхіяй ацэньваецца ў 10 млн. рублёў.

Наогул, па дадзеных РУП «Віцебскэнерга» у выніку праходжання моцнага ветру адбыліся аварыйныя адключэння электразабеспячэння ў трох раёнах Віцебскай вобласці. У Віцебскім раёне пашкоджаны 3 лініі электраперадачы, адключаныя 43 трансфарматарныя падстанцыі, без святла засталіся 18 населеных пунктаў і 1 ферма. У Лёзненскім раёне пацярпелі 1 лінія электраперадачы, 17 трансфарматарных падстанцый, 13 населеных пунктаў і 4 фермы. Больш за іншых дасталася Аршанскаму раёну. Там вецер пашкодзіў 7 ліній электраперадач. Ад энергазабеспячэння адключаныя 107 трансфарматарных падстанцый, 63 населеныя пункты і 11 жывёлагадоўчых фермаў.

**Т. Гаражанка.**

ДАРОЖНЫЯ ЗДАРЭННІ

# ЭКСТРЭМАЛЬНЫЯ ВЫПАДКІ З АЎТО

**Апошнія дні ў Гарадку адзначыліся надзвычанымі здарэннямі з удзеламкіроўцаў аўто. Таран асвятляльнага слупа і самагубства жанчыны зарулём адзначаны ў самыя кароткія ночы гэтага года.**

У тры гадзіны ночы 22 чэрвенямаладыя ліхачы не справіліся з кіраваннем каля вуліцы Карла Маркса і пратараніліасвятляльны слуп, а таксама пашкодзілі бетонны плот. Часова былопрыпынене асвятленне ў цэнтры Гарадка, але ў самую кароткую ноч хутка былоаднаўлена. Аператыўна спрацавалі і ДАІ, і супрацоўнікі Гарадоцкага аддзяленняМНС. Большасць гараджан гэтага дарожна-транспартнага здарэння і не заўважылі.

Праз ноч у Гарадку таксама адбылася чарговая надзвычайная гісторыя. Ноччу 24 чэрвеня жанчына-кіроўца, па меркаванню відавочцаў,вырашыла завяршыць жыццё самагубствам. На аўто «Hyundai Santa Fe» яна пратараніла прыдарожны крыж, усталяваны пры ўездзе ў Гарадок з бокуШуміліна. Але гэта спроба не была "паспяховай". Тады жанчыназноў разагнала машыну і пайшла на таран вялікага прыдарожнага валуна. Валун быўадкінуты на некалькі метраў, машына разбіта і ў ёй скончыла сваё жыццё жанчына,якая пражывала да гэтага ў Віцебску. Пры гэтым зрабіла сіратамі двух дзетак.

Гэтыя гісторыі яскрава сведчаць, што аўтамабіль не толькі сродакперамяшчэння, але ў адчайных руках нясе небяспеку навакольнаму асяроддзю ды ісамім кіроўцам.

**Л. Антонаў.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# Чарговае свята "Гарадоцкі Парнас"

**16 чэрвеня на цэнтральнай плошчы Гарадка адбылося свята "Гарадоцкі Парнас", прысвечанае знакамітаму аўтару паэмы "Тарас на Парнасе" Канстанціну Вераніцыну.**

Свята распачалася ў 11 гадзін урачыстым адкрыццём у якім прынялі удзел намесніца старшыні райвыканкама Надзея Бурунова і пісьменнік, перакладчык паэмы "Тарас на Парнасе" на нямецкую мову Уладзімір Папковіч. Далей быў канцэрт творчых калектываў горада і раёна "Вечарынка на Парнасе" з удзелам народнага ансамбля "Жывіца" г. Горкі, а таксама ансамбля "Гарэзнікі" Шумілінскага раёна. Адначасова на цэнтральнай плошчы, а не ў гарадскім скверы, як было на ранейшых святах, адбылася выстава-продаж "Кірмаш ля Парнаса".

Наогул тэрыторыя свята абмяжавалася плошчай, бо пачаўшаяся амаль месяц назад рэканструкцыя вуліцы Савецкай не бачыць свайго канца. Гэта рэканструкцыя здзіўляе маруднасцю і тонамі пяску, які завозіцца пад плітку. Дарэчы ва ўсіх аналагічных варыянтах пешаходных вуліц еўрапейскіх гарадоў прыдугледжваецца наяўнасць на іх шматлікіх кавярань і пабаў. На жаль, у Гарадку толькі адзін прыстойны рэстаран "Вясёлка", дзе магчыма арганізаваць святочную імпрэзу, а культура вольнага адпачынку так і не сфармавалася.

На цэнтральнай плошчы шчэ у 13 гадзін пачалося свята "Вераніцынская зорка" з удзелам паэтаў і бардаў. Гарадоцкім краязнаўчым музеем была арганізавана экскурсія "Сцежкамі Тараса" пад час якой адбылося наведванне в. Астраўляны – радзімы Канстанціна Вераніцына. Пад час свята працавалі гандлёвыя рады, атракцыёны для дзяцей, а на гарадскім стадыёне магчыма было замовіць верталётную экскурсію.

Гэта традыцыйнае свята кожны год год праводзіцца ў розныя тыдні чэрвеня – ад першых выходных да трэцціх. Між тым афіцыйная дата нараджэння К. Вераніцына – 1 чэрвеня і таму для аптымізацыі часу правядзення "Гарадоцкага Парнаса" мэтазгодна прызначаць для свята першыя выходныя чэрвеня. Менавіта з гэтага свята пачынаць гарадоцкае лета, а не выбіраць час адвольна.

**Л. Антонаў.**

# ВЕТЭРАНА АБРАБАВАЛА ПЕНСІЯНЕРКА

Васьмідзесяціпяці гадовы ветэран "нечакана" стаў ахвярай махлярства. Падзея адбылася ў в. Вярэчча Гарадоцкага раёна.

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага УУС 13 чэрвеня ў 15 гадзін у Гарадоцкі РАУС звярнуўся пенсіянер 1927 года нараджэння, жыхар вёскі Вярэчча. 85-ці гадовы ветэран паведаміў, што сёння ў перыяд з 12 гадзін да 12 гадзін 05 хвілін да яго завітала невядомая яму жанчына. Жанчына прапанавала на продаж адзенне, а калі сыйшла з хаты, то пенсіянер выявіў крадзеж 280 тыс. рублёў.Следча-аператыўнай групай Гарадоцкага РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніла пенсіянерка 1955 года нараджэння, жыхарка Віцебска.

Аддзяленнем следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 205 ч. 1 КК. Дадзены артыкул Крымінальнага кодэксу прыдугледжвае самыя розныя меры пакарання: ад грамадскай працы да пазбаўлення волі тэрмінам да трох гадоў.

**Т. Гаражанка.**

ПРАБЛЕМЫ АБСЛУГОЎВАННЯ

# Часовае становіцца пастаянным

**Часова спыніўшы працу універсама № 62 па вул. Гагарына да 19 гадзін,праўленне Гарадоцкага райспажыўсаюза ужо трэцці месяц не здольна аднавіць яго працу да 21-й гадзіны.**

Універсам № 62 па вул. Гагарына пасля красавіцкага пераўліку стаў зачыняцца не ў 21 гадзіну, а ў сем вечара. І гэта пры тым, што універсам з'яўляецца адзінай краме буйнога мікраранёа Гарадка, дзе пражываюць пераважна сем'і работнікаў Гарадоцкай птушкафабрыкі і размяшчаецца адзіны гатэль Гарадка – "Раўбічы", пастаяльцы якога не маюць дзе пахарчавацца.

Праўленне Гарадоцкага райспажыўсаюза абяцала, што гэта будзе часовай з'явай. Але прайшла пасяўная кампанія, настала чырвонае лета, а універсам па ранейшаму працуе да сямі вечара і грамадзяне, якія вяртаюцца дамоў са сваіх палеткаў вымушаны накіроўвацца да прыватных крамаў , якія размешчаны на вул. Галіцкага, калі тэрмінова трэба набыць патрэбныя прадукты. Іронія часу, што ў зімовы цёмны перыяд крама працавала да 21 і да 22 гадзін, а зараз у сезон спажывецкага попыту стала зачыняцца вельмі рана. Праблема палягае ў тым, што сталым супраўнікам універсама Гарадоцкі райспажыўсаюз адмовіўся даплачваць за перапрацоўку 40-гадзіннай тыднёвай нормы, а знайсці новых гандляроў для універсама не атрымліваецца.

Ды і па шчырасці, праўленне райспажыўсаюз да гэтага не імкнецца. У спісе вакансій Гарадоцкага цэнтра занятасці па стану на 1 чэрвеня ад Гарадоцкага райспажыўсаюза паступілі заяўкі толькі на аднаго прадаўца з заробкам у 1,3 млн. рублёў. Прапануемы заробак вельмі далёк не толькі ад абяцаных Лукашэнка 500 даляраў, але ў 2,5 разы (!) менш абяцанага сярэдняга заробка для Віцебшчыны. Менавітастаршыня Віцебскага аблвыканкама А. Косінец упэўнівае жыхароў, што ў чэрвені сярэдні заробак будзе 400 даляраў, што каля 3,4 млн. беларускіх рублёў. І ці будзе старшыня гаспадаром свайго слова хутка пакажа час.

А пакуль кіраўніцтва рэжыму займаецца абяцанкамі-цацанкамі, праўленне райспажыўсаюза часовы рэжым працы крамы зрабіла пастаянным. Жыхары ж мікрараёна мусяць спяшацца у краму да сямі вечара, бо далей даводзіцца рухацца больш кіламетра да іншых працуючых прыватных крам.

**Л. Антонаў.**

***Ад рэдакцыі.*** Не прайшло і двух тыдняў пасля змяшчэння дадзенай нататкі на інтэрнэт-рэсурсе http://haradok.info, як універсам на Гагарына пачаў працаваць да 21 гадзіны.

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# МІКОЛА АЎТУХОВІЧ ЧАКАЕ СПАТКАННЕ З МАЦІ

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!", атрымаў ліст з гарадзенскай турмы ад палітычнага вязня – Мікалая Аўтуховіча.**

На пачатку дасланага ліста Мікалай Аўтуховіч паведамляе аб тым, што хутка павінен мець кароткае спатканне з матуляй. Палітычны вязень піша: "Мы не бачыліся ўжо больш за сорак месяцаў. Таму цяпер жыву толькі спатканнем. Астатняе ўсё дробязі".

У лісце Аўтуховіч абгрунтоўвае сваё меркаванне наконт гульні з магчымай амністыяй для палітвязняў. Па-першае, гэта не магчыма, бо ўсім палітвязням "зроблены" парушэнні і яны не могуць трапіць пад амністыю. Па-другое, гаворка пра амністыю з'яўляецца лухтой і прыдуманай гульнёй для еўрапейцаў. "Нельга верыць чалавеку, які ужо сто разоў падманываў, які не адказвае за свае словы." Па-трэццяе, еўрапейцы павінны гэта разумець і не наступаць у чарговы раз на граблі.

Мікалай Аўтуховіч адзначае, што высновы з існуючай сітуацыі павінен рабіць кожны, хто імкнецца ажыццявіць свае мары. Асабіста ён гэта зразумеў яшчэ у 2004 годзе і таму не выходзіць зараз на свабоду. Палітвязень адзначае, што напрыканцы траўня ён ужо 125 дзён знаходзіцца ў гарадзенскай турме. Аўтуховіч з аптымізм дадае: "Час ляціць. Усё бліжэй і бліжэй свабода і для мяне і для ўсіх. Усё калісьці скančваецца! Дыктатары таксама не вечныя!.. Жыве Беларусь!"

**Л. Антонаў.**

ВЫПУСКНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# КАНФУЗ З ЭКЗАМЕНАМ

**У СШ №1 г. Гарадка выпускнікі 11»Б» класа прыйшлі 1 чэрвеня на здачу экзамена, які не быў прыдугледжаны ў той дзень Міністэрствам адукацыі.**

Асаблівыя хваляванні выклікае першы экзамен, які ідзе ў атэстат сталасці. Адзінацацікласнікі з «Б» класа, а потым і іх бацькі былі шакаваны раніцай першага чэрвеня, калі даведаліся, што настаўнікі рыхтавалі іх да здачы экзамена па матэматыцы, а выпускнікі ўсёй Беларусі рыхтаваліся да здачы іншага экзамена – пераказа па беларускай або расейскай мове. Вось так: рыхтаваліся рашаць матэматычныя задачы, зубрылі формулы, а трэба прадэманстраваць веды па роднай мове. Аператыўна быў выкліканы іншы склад экзаменацыйнай камісіі і ў стрэсавым стане выпускнікі і экзаменуючыя настаўнікі замест матэматыкі напісалі пераказ па расейскай мове. Прычым напісалі экспромтам пры пэўнай тэхналогіі не горш, чым пісалі пераказы ў навучальным годзе. Дарэчы выпускнікі з 11 «А» класа не мелі гэтага стрэсу, бо загадзя былі падрыхтаваны да пераказу па расейскай мове.

Цяжка ўспомніць такі выпадак з падрыхтоўкай экзаменаў, калі ў асобна ўзятай школе – дарэчы настаўнікі ў ёй даволі моцныя – адбыўся бы аналагічны канфуз. Які д'ябал збіў з панталыку адказных супрацоўнікаў школы і Гарадоцкага аддзела адукацыі, мусіць будуць шчэ разбіраліся адмысловыя чыноўнікі з аблана. Вынікам пярвічнага мясцовага разбору сталі вымовы, як кіраўнікам школы, так і адказнаму спецыялісту рана.

Але слёзы выпускнікоў, абурэнне бацькоў, шок настаўнікаў і адміністрацыі сталі сведчаннем тупіковага развіцця краіны. Тупіковага, бо ніхто з зацікаўленых настаўнікаў і кіраўніцтва школы не здолеў прадэманстраваць веданне нарматыўных дакументаў па падрыхтоўцы да экзаменаў і стварылі пастку для выпускнікоў школы. І гэта пры тым, што нарматыўныя дакументы шчэ са студзеня прадугледжваюць мэтанакіраваную падрыхтоўку да экзаменаў. А атрымалася ж, што рыхтаваліся не да таго экзамена.

**Л. Антонаў.**

ПАЛАТАЧНАЯ ІМІТАЦЫЯ

# ОППОЗИЦИЯ В ПАРЛАМЕНТ МОЖЕТ ТОЛЬКО ПРОСОЧИТЬСЯ

СУДЯ ПО РИТОРИКЕ АЛЕКСАНДРА ЛУКАШЕНКО НА СОВЕЩАНИИ 18 ИЮНЯ, ДАВШЕМ СТАРТ ПАРЛАМЕНТСКОЙ КАМПАНИИ, ВЫБОРЫ ОБЕЩАЮТ БЫТЬ ДЕМОКРАТИЧНЫМИ НАСТОЛЬКО, НАСКОЛЬКО ОНИ МОГУТ БЫТЬ ДЕМОКРАТИЧНЫМИ В БЕЛОРУССКИХ УСЛОВИЯХ.

Избирательные комиссии, по словам официального лидера, должны быть сформированы «с участием политических партий и общественных организаций». Но включать в избиркомы следует только лиц, «достойно зарекомендовавших себя при проведении прежних избирательных кампаний», а не тех, «кто ранее способствовал дезорганизации выборов». Понятно, что это развязывает вертикали руки для фильтрации неудобных персоналий.

Что касается регистрации кандидатов в депутаты, то Лукашенко заявил, что «всех, кто имеет право быть зарегистрированным, надо регистрировать». Он призвал местные органы власти обеспечить кандидатам свободу агитации «на условиях не худших, чем это было при проведении выборов президента страны в 2010 году». Но при этом потребовал «незамедлительно пресекать» любые незаконные действия и политические провокации. В общем, обычная риторика. Власти весьма дозированно играют в демократию и намерены держать процесс под колпаком.

Оппозиционные силы Беларуси практически единогласно утверждают, что к парламентской кампании готовы. Впрочем, как считает политолог Виктор Чернов, телодвижения партий, равно как и выборы, носят в современной Беларуси лишь ритуальный характер. «Оппозиция вообще не имеет шансов попасть в парламент, потому что в стране нет выборов, а есть имитация. Поэтому логично встает вопрос, стоит ли участвовать в такой имитации», — заявил Чернов.

«Шансов на попадание в парламент у оппозиции я не вижу. С 2000 года эти шансы только ухудшались. В 2000 году в половине округов был второй тур, в 2004 году второй тур был в нескольких округах, в 2008 году второго тура вообще не было. В стране — мажоритарная избирательная система, и законом этой системы является проведение второго тура. Не может быть при демократических выборах и мажоритарной системе полной победы в один тур! Беларусь — единственная страна в мире, где такое произошло. Это говорит, что списки составлены, решения приняты, депутаты уже назначены, и оппозиции дергаться даже не стоит», — считает аналитик.

На помощь же Европы в плане улучшения условий выборов особо рассчитывать не приходится. По мнению политолога Андрея Егорова, Европа уже давно утратила рычаги влияния на внутрибелорусскую ситуацию. «Европа могла бы поддержать процесс демократизации, если бы он начался внутри страны, оказать какую-то помощь, оказать давление», — считает эксперт. Но сейчас таких процессов не наблюдается.

По словам аналитика, на позицию Европы могли бы повлиять два фактора: полное освобождение политзаключенных и либерализация «хотя бы такая, как во время президентской кампании 2010 года».

Но выборы, по мнению Егорова, все равно не будут признаны соответствующими стандартам ОБСЕ. «Европа оценивает выборы в комплексе, а не только ход голосования. У нас нет условий для демократической кампании. Нет свободы СМИ, продолжаются репрессии в отношении оппозиционных активистов и правозащитников, в стране атмосфера страха, нет свободы собраний и так далее. Даже это уже не позволяет организовать выборы по международным стандартам», — считает Егоров.

По большому счету, и оппозиции, и Европе надо было начинать думать о белорусских парламентских выборах раньше. Как минимум — сразу же после президентских. Но тогда было не до этого: брутальность репрессий оглушила всех, тема политзаключенных вытеснила все остальные.

**Сергей Пульша, naviny.by**

АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

# СЕЗОН ПЕРАДВЫБАРЧАГА ПАВЫШЭННЯ ЗАРОБКАЎ АДКРЫТЫ

БЮДЖЭТНІКАЎ У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ЧАКАЕ, ЯК МІНІМУМ, ДВА ПАВЫШЭННЯ ЗАРПЛАТЫ. ПАВЫСІЦЬ ТАРЫФНУЮ СТАЎКУ ПЕРШАГА РАЗРАДУ ПЛАНУЕЦЦА 1 ЖНІЎНЯ І Ў КАСТРЫЧНІКУ. ЁСЦЬ МЕРКАВАННЕ, ШТО АНАНСАВАННЯ ПАВЫШЭННЯ ЗАРОБКАЎ - ГЭТА ЧАСТКА ПЕРАДВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ, А ТАКСАМА АДКАЗ НА ПРАТЭСТНЫЯ ВЫСТУПЫ ПРАЦОЎНЫХ.

21 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам даручыў павысіць з 1 жніўня і ў кастрычніку бягучага года тарыфную стаўку першага разраду. Паводле слоў прэм'ер-міністра, «задача аб выхадзе на 4-4,1 млн. рублёў сярэдняй заработнай платы няпростая, але будзем імкнуцца да таго, каб гэта было выканана».

Як вядома, Лукашэнка паставіў задачу да канца гэтага года давесці сярэдні ўзровень заробкаў у Беларусі да 500 даляраў. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у красавіку склала 3252689 рублёў (у сакавіку - 3.159.624 рублёў). Сярод рэгіёнаў найбольшы памер сярэдняй зарплаты ў красавіку быў у Менску - 4174172 рублі. Гэты паказчык не дазваляе, з улікам ваганняў курсу рубля, казаць, што беларуская сталіца стабільна выйшла на 500-даляравы ўзровень сярэдняй зарплаты. У рэгіёнах сітуацыя яшчэ менш аптымістычная.

Эканаміст Леанід Злотнікаў звязвае кампанію па павелічэнні заробкаў з набліжэннем выбараў у парламент. Акрамя таго, улады вымушаныя адказваць на пратэсты, якія час ад часу здараюцца на прадпрыемствах, лічыць эксперт.

Нагадаем, што першымі ў працоўным асяроддзі сталі выказваць незадаволенасць нізкімі заробкамі барысаўскія камунальнікі. Затым у гэтым жа горадзе па гэтай жа прычыне абурыліся працаўнікі завода БАТЭ. Далей супраць нізкіх заробкаў выступілі рабочыя аб'яднання «Палессе» у Пінску, станкабудаўнічага завода «Атлант» у Баранавічах. У Аршанскім філіяле электрасетак паўсотні чалавек вырашылі выйсці з афіцыйнага прафсаюза. Яшчэ вялікія страты панёс афіцыйны прафсаюз на «Граніце» у Мікашэвічах.

Леанід Злотнікаў лічыць, што лепш эканомікі ад неабгрунтаванага росту заробкаў не будзе ў любым выпадку.

Калі будзе прададзеная дзяржуласнасць, з'явяцца крэдыты, тады павелічэнню грашовай масы на руках у насельніцтва можна будзе супрацьпаставіць павелічэнне таварнай масы. Гэта будзе азначаць некалькі месяцаў спакойнага і больш-менш камфортнага жыцця.

Аднак, адзначае эксперт, пры такім варыянце неабходна будзе значна нарошчваць імпарт, так як «сваю вытворчасць не магчыма хутка павялічыць». А для імпарту неабходная валюта. Павышаны жа попыт на яе створыць ціск на валютны рынак і можа стаць прычынай падзення курсу нацыянальнай валюты.«Такім чынам, дрэнна будзе эканоміцы ў любым выпадку - ці цяпер, ці крыху пазней», - маркуе Леанід Злотнікаў.

Эксперт звяртае ўвагу, што да 500 даляраў сярэдняя зарплата павінна вырасці з той якая ў пачатку года была 350 даляраў. Акрамя таго, растуць пенсіі і іншыя сацыяльныя выплаты. Для падтрымання такога росту даходаў, каб пазбегнуць інфляцыі, лічыць Злотнікаў, ВУП павінен павялічыцца, па крайняй меры, на 30%. Аднак нават вызначаны ў якасці прагнозага паказчыка рост ВУП у 5-5,5% незалежныя эксперты раней называлі неапраўдана завышаных.

Такім чынам, робіць высснову Леанід Злотнікаў, мы назіраем «не рашэнне праблемы павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, не стратэгію, а тактыку, заснаваную на тым, каб заўтра было добра, а там будзь што будзе».

Як адзначаў раней першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, дасягненне заработнай платы ў снежні 2012 года на ўзроўні 500 даляраў будзе забяспечвацца толькі за кошт росту прадукцыйнасці працы з дапамогай стварэння новых вытворчасцей і павышэння эфектыўнасці дзеючых. «Нізкія зарплаты ў краіне звязаны як раз з нізкай эфектыўнасцю - прыкладна ў 6 разоў ніжэй, чым у развітых краінах», - отмечает Леанід Злотнікаў.

С ц в я р д ж э н н і прадстаўнікоў улады аб тым, што «падвышэнне заробкаў адбываецца ў адпаведнасці з ростам прадукцыйнасці працы застаюцца толькі словамі», упэўнены Леанід Злотнікаў. «Улічваючы, што да ўсяго іншага нам неабходна разлічвацца па крэдытах, цяпер трэба зацягваць пасы, а не павышаць зарплаты», - лічыць эксперт.

**Алена Спасюк.**

ЕЎРАЗІЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЛУКАШЕНКО ПРЕДЛОЖИЛИ ЕЗДИТЬ ЗА ЗАРПЛАТОЙ В КРЕМЛЬ

«ВТОРОГО КРИЗИСА БЕЛОРУССКАЯ СИСТЕМА НЕ ПЕРЕЖИВЕТ». ЭТО СКАЗАЛ НЕ ОППОЗИЦИОНЕР, А РОССИЙСКИЙ ПОСОЛ АЛЕКСАНДР СУРИКОВ В ИНТЕРВЬЮ АГЕНТСТВУ «ИНТЕРФАКС-ЗАПАД». И СКАЗАЛ ВОТ В КАКОМ КОНТЕКСТЕ: «НАДО ВОЗВРАЩАТЬСЯ И К ВОПРОСУ ВВЕДЕНИЯ ЕДИНОЙ ВАЛЮТЫ».

Оба-на! В последнее время официальные лица с обеих сторон твердили, что этот вопрос в обозримой перспективе не актуален, и вдруг — такое заострение.

И вообще дипломат союзной страны наговорил кучу весьма неприятных для белорусского начальства вещей. Представляющих собой, однако, горькую правду. Типа того, что без реформ в экономике инвесторы в Беларусь не придут. Что вскоре синеокая республика может «стать совсем неконкурентной и потерять даже наш, российский, рынок». Здесь господин посол позволил себе легкую иронию: «И останутся только братские отношения».

Да, белорусские деятели сами замусолили эту фразеологию, хотя в подкорке другое: сомнительное братство на хлеб не намажешь; сто лет нужны эти поцелуи с Азиопой, если за них не дают дешевого газа и нефти!

### Алхимия «братских отношений»

Тем временем исподволь назревает и конфликт на почве сотрудничества Беларуси с китайцами. Тот же Александр Суриков дал понять, что планы наладить у нас выпуск китайских автомобилей не вызывают у Москвы ни малейшего восторга.

А между тем на днях Александр Лукашенко подписал указ о создании под Минском китайско-белорусссского индустриального парка. Причем ему на полстолетия даруется статус особой экономической зоны. Хотя согласно соглашениям в рамках ЕЭП все СЭЗы к 2017 году должны исчезнуть. Россия вряд ли закроет глаза на такой игнор.

Посол Суриков дважды за последние дни затронул также скользкую тему колоссального роста экспорта растворителей и разбавителей из Беларуси. 14 июня этой темой выстрелили и московские «Известия». Заголовок красноречив: «Белоруссия химичит с экспортом российских нефтепродуктов».

Короче, в Москве сгущаются подозрения, что здесь имеет место хитрая схема неуплаты таможенных платежей в российский бюджет. Минск устами главы Государственного таможенного комитета Александра Шпилевского это отверг. Таким образом, схватка в публичном пространстве разгорается.

«Недавно был замечательный визит Путина, все пели и плясали, — иронизирует белорусский обозреватель-международник Андрей Федоров, — и вдруг посыпались неприятные для Минска заявления». С чего бы это? О той же «химии» с реэкспортом нефтепродуктов аналитики пишут уже полгода, а Кремль резко прозрел только сейчас.

«Подтверждается прогноз, что Москва будет усиливать давление на Лукашенко после инаугурации Путина», — заявил аналитик в комментарии для Naviny.by.

### Последний рубеж белорусской автократии

При этом Андрей Федоров убежден, что белорусский руководитель будет особенно яростно сопротивляться единой валюте (читай: введению у нас российского рубля).

Напомню, что общие деньги с двуглавым орлом планировалось ввести еще в 2005 году в рамках Союзного государства. Но тогда Лукашенко встал на дыбы. И даже призвал во временные союзники ушедшего в оппозицию либерального профессора Станислава Богданкевича, известного противника единой валюты.

Короче, тогда наскок Кремля отбили плечом к плечу, забыв о взаимных ярлыках, «промосковский диктатор» и «пятая колонна». При всем антагонизме их роднит понимание: российский рубль — это капец суверенитету.

В периоды эмоционального возбуждения Лукашенко еще не раз возвращался к этой теме и повторял, что за зарплатой «на поклон в Кремль» ездить не собирается.

Почему Суриков поднял этот вопрос именно сейчас, когда Россия вроде бы старается не спугнуть белорусского партнера, заманивая поглубже в проект евразийской интеграции?

«Москва учитывает, что Беларусь довела себя до изоляции в отношениях с цивилизованной Европой и Америкой, что вся финансовая помощь идет из России, туда же в основном сбывается продукция белорусской обрабатывающей промышленности», — отметил в беседе с автором этих строк Станислав Богданкевич.

По его мнению, ситуацией, когда Лукашенко «барахтается у стенки», Кремль логично решил воспользоваться, чтобы продавливать единую валюту, приватизацию, а в перспективе — полное поглощение Беларуси.

Но, может, не так уж и страшен российский рубль? Может, напротив, это благо и спасение? Нет, подчеркнул профессор Богданкевич в интервью для Naviny.by. Бывший руководитель Национального банка убежден: «Нам невыгоден переход на валюту, которая, как показывает кризис, неустойчива, которая лежит на сырьевой компоненте».

Главное же — угроза навсегда застрять в путинской модели евразийской интеграции, предполагающей «восстановление в какой-то форме СССР», говорит эксперт. При этом Богданкевич подчеркивает: Беларуси важно сохранять с Россией хорошие отношения, но — не поступаясь суверенитетом, как это делала маленькая Финляндия.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**

РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ПАДАТКАПЛАЦЕЛЬШЧЫКІ

# ЗА ЧЫЙ КОШТ ВЫЖЫВАЮЦЬ РЭГІЁНЫ?

НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКІ, ГАРЭЛАЧНІКІ, ТЫТУННІКІ І ГАЗАВІКІ - ГАЛОЎНЫЯ КРЫНІЦЫ ДАХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ РЭГІЁНАЎ. ЧЫМ ПАХНУЦЬ БЮДЖЭТНЫЯ ГРОШЫ НА МЕСЦАХ, ВЫСВЯТЛЯЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

«Заўтра тваёй краіны» ужо пісаў пра найбуйнейшых падаткаплацельшчыках беларускай сталіцы. Па выніках студзеня-красавіка ў першую пяцёрку па аб'ёмах плацяжоў у сталічны бюджэт ўвайшлі «Белтрансгаз»-даччыная кампанія расейскага «Газпрама» і выключна прыватныя кампаніі - «Лукойл-Беларусь», «Трайпл», «Белнафтагаз», «Юнівест». Разам з якія занялі месца ў другой палове рэйтынгу топ-10 «Мінск Крышталем», Мінскім заводам вінаградных віна, Беларускай чыгункай, «Тытунь-Інвест» і «Мінгаз» яны забяспечылі звыш 37% кансалідаваных даходаў горада. Доля прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара склала рэкордныя 75%, на дзяржсектар сталіцы прыйшлося ўсяго 22,7% усіх паступленняў.

У Мінскай вобласці найбуйнейшым плацельшчыкам у бюджэт стала самае прыбытковае прадпрыемства беларускай эканомікі - салігорскі «Беларуськалій». Яму склалі кампанію зарэгістраваная ў Мінскім раёне «дачка» расейскай нафтавай кампаніі ТНК-ВР («ТНК-Біпі Захад»), найбуйнейшы прыватны гарэлачны завод «Аквадзіў», а таксама «Белвторчермет».

Безумоўным лідэрам па аб'ёмах адлічэнняў у кансалідаваны бюджэт Віцебскай вобласці за першыя чатыры месяцы 2012 стаў наваполацкі «Нафтан». Гэта прадпрыемства забяспечыла 17,8% даходаў абласнога бюджэту. Другое месца па плацяжах заняў «Віцебскаблгаз», трэцяе - прыватны нафтатрэйдары «Інтэрсэрвіс» (Наваполацк), чацвёртае - Віцебскі лікёра-гарэлачны завод«Прыдзвінні».

У Магілёўскай вобласці ў чацвёрку лідэраў ўвайшоў толькі адзін прыватны бізнес - «Бровары Хайнэкен», які заняў трэцяе месца, забяспечыўшы 4,5% ад усіх паступленняў у кансалідаваны бюджэт вобласці. А галоўнай надзеяй уладаў на Магілёўшчыне з'яўляецца «Могилевоблгаз», на які прыйшлося 10,5% усіх паступленняў. Другое месца ў Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода (4,9%), чацвёртае - у заводу «Магілёўліфтмаш» (2,2%), былой вотчыны цяперашняга губернатара Пятра Рудніка.

Чатыры падаткаплацельшчыка Гродзенскай вобласці напоўнілі рэгіянальны кансалідаваны бюджэт амаль на траціну - на 31,2%. Лідэрам па адлічэннях стала гарадзенская «тытункі», далей ішлі «Гродна Азот», Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод «Неманофф» і «Гроднааблгаз».

У Брэсцкай вобласці, адзінай сярод рэгіёнаў, тон задае не сыравінную і не падакцызнай прадпрыемства, а найбуйнейшы вытворца ў СНД электрычных і газавых пліт - «Брэстгазаапарат». Удзельная вага прадпрыемствы, кантрольны пакет якога належыць «Газпрому», у агульным аб'ёме паступленняў у бюджэт вобласці склаў 6,5%. Другое і трэцяе месцы занялі Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод «Белалка» (5,3%) і «Беларуснафта-Брестоблнефтепродукт» (2%), адна з васьмі ненафтапрадуктазбытавых кампаній «Беларуснафты».

Доля дзяржсектара ў падатковых паступленнях у Гомельскай вобласці - самая высокая ў краіне. Па выніках 2011 года яна склала 82,8%. Дадзеных, хто лідзіраваў па адлічэннях у бюджэт вобласці ў студзені-красавіку 2012 года, мясцовыя падатковыя органы не апублікавалі. Але традыцыйна найбуйнейшымі падаткаплацельшчыкамі ў кансалідаваны бюджэт рэгіёну з'яўляюцца Мазырскі НПЗ, БМЗ, «Гомсельмаш» і «Беларуснафта».

Аляксей ТАПОЛЬКА.

РЭГІЯНАЛЬНЫ ЦУД

# У ЧЫМ САКРЭТ ВІЦЕБСКАГА “ЭКАНАМІЧНАГА ЦУДУ”

НА ФОНЕ СЦІПЛАГА ПА БЕЛАРУСКІХ МЕРКАХ РОСТУ ВУП У 2,9% ЗА СТУДЗЕНЬ-КРАСАВІК АДЗІН З РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ ДЭМАНСТРУЕ АШАЛАМЛЯЛЬНЫ ВЫНІКІ. ЗА КОШТ ЧАГО ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЎДАЛОСЯ ДАБІЦЦА РОСТУ РЭГІЯНАЛЬНАГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ НА 22,2%, ДАСЛЕДУЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

Менавіта такім - 22,2%, па дадзеных Белстата, апынуўся рост РВП Віцебскай вобласці па выніках студзеня-красавіка бягучага года ў адносінах да леташняга аналагічнага перыяду. Пасля Віцебскай вобласці самы вялікі рост у Мінска - 4,1%.

І хоць Мінск ўносіць найбольшы ўклад у фарміраванне ВУП краіны (амаль 27%), менавіта Віцебская вобласць больш чым напалову забяспечыла тэмпы росту ВУП, даўшы 1,7% з 2,9%. Інакш рост ВУП Беларусі знаходзіўся б на ўзроўні крыху больш за 1% у параўнанні з мінулым годам.

Астатнім рэгіёнах не ўдалося пераадолець запланаваны на год 5-працэнтны бар'ер, а Брэсцкая вобласць нават паказала зніжэнне - на 3,9%.

3 дадзеных статыстыкі вынікае, што самы вялікі ўклад у рост РВП Віцебскай вобласці ўнеслі ўсяго два віду эканамічнай дзейнасці: апрацоўчая прамысловасць з ростам у 42% у рэгіёне і гандаль, якая паказала двухразовы рост у параўнанні з мінулым годам.

### Небывалы ўздым вытворчасці ў Наваполацку

У цэлым рост прамысловай вытворчасці па Віцебскай вобласці склаў 34%. І гэта таксама абсалютная лідэрства сярод іншых рэгіёнаў Беларусі. 68% усёй прадукцыі фарміруецца ў Наваполацку, дзе рост у параўнанні з мінулым годам склаў ужо 56,2%. Відавочна, што забяспечыць яго магло толькі адно прадпрыемства Наваполацка - «Нафтан».

Пасля паляпшэння ў гэтым годзе умоў для пастаўкі нафты і нафтапрадуктаў у Беларусь з Расіі імпарт нафты павялічыўся ў першым квартале на 25%, а нафтапрадуктаў, з якіх у Беларусі робяць на экспарт «растваральнікі», - у 4,4 разы, Гэта, хутчэй за ўсё , і забяспечыла небывалы ўздым вытворчасці ў Наваполацку.

Праўда, яшчэ адна нафтаперапрацоўчая вобласць краіны - Гомельская - не паказала такіх бурных тэмпаў росту. Рост РВП тут склаў усяго 1,8%, рост прамысловай вытворчасці - 5,4%.

Прамысловасць Гомельшчыны куды больш дыверсіфікавана, чым Віцебшчыны. Мазырскі раён у структуры прамысловай вытворчасці Гомельскай вобласці займае 44%, прычым у студзені-красавіку тут нават адбылося зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці на 2,8% у параўнанні з мінулым годам.

А дадзеныя па знешнім гандлі ў рэгіянальным разрэзе паказваюць, што імпарт у Наваполацк склаў больш за 1,3 млрд долараў супраць 722 млн. долараў у Мазырскім раёне. Відавочна, што асноўную долю імпарту ў гэтых двух рэгіёнах складаюць менавіта нафта і нафтапрадукты.

Дадзеныя ж па экспарту разводзяць рэгіёны па розныя бакі «эканамічнага цуду» - усяго 33 млн долараў для Мазырскага раёна (верагодна, МНПЗ забяспечвае ў большай ступені ўнутраны рынак) супраць амаль 857 млн. долараў, якія даў Наваполацк, прадэманстраваўшы у параўнанні з мінулым годам 4 - кратны рост экспарту.

Становіцца відавочным, што як мінімум палову ашаламляльнага росту РВП Віцебскай вобласці забяспечыла нафцянка.

### Тавары проста вывозяць у суседнюю Расію

Другую палову даў гандаль. Рост тавараабароту ў Віцебскай вобласці таксама аказаўся самым высокім сярод рэгіёнаў Беларусі - 17,1%. Зрэшты, тут у Віцебскай вобласці ёсць годны сапернік - Магілёўшчына з ростам рознічнага тавараабароту ў 15,9%. Блізкасць абодвух рэгіёнаў да мяжы з Расіяй не пакідае сумненняў - рост рознічнага тавараабароту звязаны зусім не з спажывецкім бумам, які перажываюць мясцовыя жыхары. Яны проста вывозяць тавары ў суседнюю Расею.

Гэта пацвярджаюць і дадзеныя статыстыкі. Самы высокі рост тавараабароту ў Аршанскім раёне - 68%. І хоць у гэтага раёна няма прамой мяжы з Расеяй, відавочна, што транспартны вузел на тэрыторыі раёна забяспечвае яго жыхарам неабходную мабільнасць. Далей ідуць Віцебскі раён - рост на 45%, Лёзненскі - на 39%, Гарадоцкі - на 36%, Верхнядзвінскі - на 27%.

**Алена Зубарава, Заўтра тваёй краіны.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# УДЗЕЛАМ ЦІ НЯЎДЗЕЛАМ У ВЫБАРАХ МЫ НЕ ВЫЗВАЛІМ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

КІРАЎНІК РУХУ «ЗА СВАБОДУ», ЭКС-КАНДЫДАТ У ПРЭЗЫДЭНТЫ АЛЯКСАНДАР МІЛІНКЕВІЧ БРАЎ УДЗЕЛ У ГЛЯБАЛЬНЫМ ФОРУМЕ, ЯКІ АДБЫЎСЯ ВА ЎРОЦЛАВЕ. НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ЮРЫ ДРАКАХРУСТ ПАПРАСІЎ ЯГО ПРАКАМЭНТАВАЦЬ НЕКАТОРЫЯ АКТУАЛЬНЫЯ СЮЖЭТЫ БЕЛАРУСКАЙ І ЭЎРАПЕЙСКАЙ ПАЛІТЫКІ.

**Дракахруст:** Як вы ацэньваеце вынікі візыту ў Беларусь прэзыдэнта Расеі Ўладзімера Пуціна?

**Мілінкевіч:** Я мяркую, што адбылося тое, што ў Беларусі і чакалі. Для Расеі сёньня, на гэтым этапе стварэньня Эўразійскага саюзу самае галоўнае — наблізіць Беларусь, зрабіць яе залежнай у эканамічнай сфэры. І Пуцін гэта падкрэсьлівае сваім візытам. Для стварэньня гэтай новай імпэрыі больш важная Ўкраіна, але Ўкраіна сёньня больш самастойная, чым Беларусь.

Я мяркую, што да восені будуць жорстка пастаўленыя пытаньні аб прыватызацыі галоўных беларускіх прамысловых актываў, аб увядзеньні расейскага рубля, але на гэтых перамовах былі хутчэй «пернікі», чым «бізуны».

**Дракахруст:**Ужо некалькі месяцаў у апазыцыі вядуцца гарачыя спрэчкі наконт стаўленьня да восеньскіх парлямэнцкіх выбараў, вакол дылемы — удзел ці байкот? Якое стаўленьне да гэтай дылемы вашага руху і вас асабіста?

**Мілінкевіч:** Узровень гэтых спрэчак сьведчыць пра стан апазыцыі. Спрэчкі ідуць аб тым, што абсалютна нецікава людзям. Людзі жывуць абсалютна іншым жыцьцём, нават зацікаўленыя палітычнымі праблемамі.

Таму для мяне вялікай розьніцы няма. Мы ўсе не прызнаём гэтыя выбары, яны ня будуць ні легітымнымі, ні свабоднымі, ніхто іх не прызнае. Удзел ці байкот ня зробіць іх для Захаду легітымнымі. Гэта па-першае. Па-другое, сацыялягічныя апытаньні сёньня паказваюць, што толькі 10% насельніцтва зьбіраюцца сёньня не пайсьці на выбары.

Большасьць прыйдзе на выбары. Апазыцыя не такая ўплывовая сёньня, каб яе паслухалі. І апошняе — ў грамадзтве няма стаўленьня да гэтых выбараў як да падзеі, якая вырашае лёс іх сям'і і краіны.

Апазыцыя не сфармулявала, якую мэту яна хоча дасягнуць. Калі ставіць на мэце павялічыць свой уплыў, зьмяніць мэнталітэт людзей, спрыяць пашырэньню праэўрапейскіх настрояў, паказаць альтэрнатыву — што ёсьць прыстойныя людзі, якім можна даверыць уладу, тады, зразумела, трэба ўдзельнічаць. Іншая справа — да канца ці не да канца, трэба ці ня трэба здымаць кандыдатуры, але я лічу, што ўдзелам ці няўдзелам мы ня вызвалім палітвязьняў, іх вызваляе ўплыў іншых чыньнікаў. І падыход, што мы запэўнімся паходам на выбары — я зь ім нязгодны.

Трэба выкарыстоўваць кожную магчымасьць. Выбары ня так часта бываюць. Таму я лічу, што абмежаваны ўдзел — гэта абсалютна слушны падыход.

***(Скарочана).***

**Радыё Свабода.**



**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 27.06.2012 у 19.15.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.